ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 24 (1726) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК 11 ЧЭРВЕНЯ 1989 г. ЦАНА 40 зл.

## НАШ ЛІЦЭЙ — КУЗНЯ БУДУЧЫХ ЛЕКАРАЎ

Як цяжка паступіць вучыцца ў медыцынскую акадэмію, не трэба нікому тлумачыць. Добра ведаюць гэта не толькі тыя, што мараць быць лекарам, але і ўсе вучні агульнаадукацыйных ліцэяў. Высокія патрабаванні на ўступных экзаменах, вялікі напор моладзі на гэты напрамак і тусты адсеў прабуючых паступіць наводзяць страх не толькі на матурыстаў, але і іх бацькоў.

А вось Агульнаадукацыйны ліцэй з беларускай мовай імя Браніслава Тарашкевіча ў Бельску можна смела назваць кузняй будучых лекараў і біёлагаў. І гэта ніякае не перабольшэнне. Гэта проста факт.

Пачынаючы ад 1982 года гэты ліцэй з вялікім поспехам удзельнічае штогод у агульнапольскіх біялагічных алімпіядах. Шырокім фронтам удзельнікаў перамагае ў акруговых элімінацыях і па некалькі чалавек з'яўляецца фіналістамі агульнапольскай алімпіяды па біялогіі для вучняў сярэдніх школ. Не раз ужо здаралася, што вучні белліцэя былі лаўрэатамі гэтай алімпіяды. А вядома, што лаўрэаты Цэнтральнай біялагічнай алімпіяды атрымоўваюць права паступлення ў медыцынскія акадэміі без уступных экзаменаў.

Ад 1982 года па сённяшні дзень Беларускі ліцэй у Бельску выхаваў 14 фіналістаў Цэнтральнай біялагічнай алімпіяды, у тым ліку 8 з іх стала лаўрэатамі. Лаўрэаты папярэдніх гадоў вучацца ўжо ў медыцынскіх акадэміях, а для іншых фіналістаў уступныя экзамены былі ўжо пры іх падрыхтаванасці толькі фармальнасцю.

Аб тым, як школе ўдалося дасягнуць такіх вынікаў, размаўляем з настаўніцай біялогіі Нінай Сулімай і лаўрэаткай сёлетняй алімпіяды Малгажатай Трафімюк.

— Пачалося ўсё ў 1982 годзе, — расказвае настаўніца. — Тады мая дачка Еля разам з Малгосяй Семянюк дайшлі да Цэнтральнай алімпіяды і сталі фіналісткамі, а Еля — лаўрэаткай і атрымала права паступаць у медыцынскую акадэмію без экзаменаў. Гэта заахвоціла многіх вучняў, дадало нам упэўненасці, што можна выйграць алімпіяду. Штогод з пачатку навучальнага года 8-12 чалавек пачынае ўдзельнічаць у дадатковых занятках па біялогіі: пішуць навуковыя працы, праводзяць біялагічныя даследаванні (гадуюць расліны ў спецыяльна зададзеных умовах, наглядаюць за пчоламі, вядуць назіранні на выбраных жывёлах).



*Настаўніца біялогіі Ніна Суліма са сваёй выхаванкай — лаўрэаткай Цэнтральнай біялагічнай алімпіяды Малгажатай Трафімюк.*

Усе працуюць вельмі сур'ёзна. Вось хоць бы некалькі прыкладаў тэм іх навуковых прац: „Эталогія мёднай пчалы ў летні перыяд", „Уплыў гербіцыдаў амінапеліка Д і хвастоксу на рост і развіццё фасолі і салата" або „Склад і структура выбраных лугоў у залежнасці ад падложжа і этафізічных умоў". Гэтыя і іншыя навуковыя працы былі ўзнагароджаны на Цэнтральнай біялагічнай алімпіядзе.

— Мы спачатку праводзім конкурс у сябе ў школе, каб выбраць найлепшыя працы і найлепшых вучняў. Лепшыя працы высылаем на акруговыя элімінацыі, а потым найлепшыя ўжо трапляюць на Цэнтральную алімпіяду. На акруговых элімінацыях аўтары найлепшых прац здаюць экзамены: пісьмовы тэст, практычныя доследы і распазнаванне прэпаратаў. Высока там цэніцца ўласныя думкі і прапановы па экзаменаванай тэме.

У фінале алімпіяды Малгосі ўдалося атрымаць найбольшую з усіх удзельнікаў колькасць пунктаў — 92 на магчымых 100. І сёння, хоць Малгося Трафімюк канчае толькі трэці клас і матура перад ёй яшчэ за год, яна можа ўжо лічыць сябе амаль студэнткай медыцынскай акадэміі.

Настаўніца Ніна Суліма вельмі скромна гаворыць аб сваіх дасягненнях. Працавала з моладдзю, старалася развіваць іх зацікаўленні, дапамагала, кіравала іх навуковымі доследамі, адным словам, вяла сваіх выхаванкаў у чароўны свет ведаў, які завецца Прыродай, Жыццём, Навукай. І вельмі цешыцца, што дапамагалі ёй у гэтым сябры-настаўнікі іншых прадметаў і дырэкцыя школы.

Дарэчы будзе тут успомніць, што Беларускі ліцэй у Бельску славіцца ўжо ў нашым ваяводстве...

(Працяг на стар. 3)

## ВЯЛІКІ БУДАЎНІК БЕЛАРУСІ

У эпоху няволі і пагарды да беларусчыны ён належаў да тае невялічкай грамадкі пачынальнікаў, якія сваёй непахіснай верай у здольнасць беларускага народу да самастойнага жыцця, асабістай ахвярнай дзейнасцю над адраджэннем нацыянальнай свядомасці, раскрыццём багацця 1000-гадовай мінуўшчыны і прасякнутай заміламаннем да ўсяго айчыннага мастацкай творчасцю і навуковымі даследаваннямі запалілі да працы на роднай ніве сотні і тысячы паслядоўнікаў.

Іван Луцкевіч (28 мая 1881 г. Шаўлі — 20 жніўня 1919 г. Закапанае) паходзіў з таго беларускага шляхецка-інтэлігенцкага асяроддзя, якое дало нашай гісторыі Дуніна-Марцінкевіча, Каліноўскага, Багушэвіча, Пашкевіч-Цётку, Купалу, Баградановіча... Яго бацька сябраваў з Вінцуком Дуніным-Марцінкевічам, а дзядзька за ўдзел у Студзеньскім паўстанні быў растраляны ў Мінску царскімі карнікамі.

Іван Луцкевіч ужо падчас навукі ў Мінскай гімназіі заснаваў беларускі маладзёжны гурток, які апекаваўся беларускі пісьменнік і мастак Карусь Каганец (Казімір Кастравіцкі). У Пецярбургу, займаючыся ў Археалагічным інстытуце, стаў ён адным са стваральнікаў з студэнцкай і рабочай моладзі Беларускай рэвалюцыйнай грамады, падрыхтаваў да друку зборнік твораў Я. Лучыны (Неслухоўскага) „Вязанка", выдаў беларускую газету-аднаднёўку „Калядная пісанка". За ўдзел у арганізаванні ў 1904 г. 1-майскай дэманстрацыі яго ўкінулі ў турму і там ён захварэў на сухоты — невылячальную ў тыя часы хваробу.

Пасля заканчэння ў 1904 г. Археалагічнага інстытута І. Луцкевіч наведаў Вену, Кракаў, Львоў, Варшаву не толькі дзеля паглыблення ведаў, але і наладжання сувязей з тамашнім рэвалюцыйным рухам. Прымае актыўны ўдзел у рэвалюцыйных падзеях 1905-6 гадоў у Мінску — арганізуе дэманстрацыі, выступае з прамовамі, удзельнічае ў падрыхтоўцы замаху на мінскага губернатара Курлова за расстрэл па ягона-

(Працяг на стар. 6)

 




# Аб альбоме

Гадоў дзесяць таму назад сустрэў я знаёмага, з якім вучыўся трыццаць гадоў таму. Знаёмы вучыўся ў палітэхнічным інстытуце, аднак яго не закончыў. Кінуў палітэхніку і заладжыў прыватны варштат рамонту аўтамашын. Спытаў мяне, дзе я працую. Я яму адказаў, што ва універсітэце. Тады ён мяне спытаў, колькі я зарабляю. Я яму добрасумленна адказаў. Знаёмы, з пачуццём вышэйшасці, якая гранічыць з пагардай, заявіў, што ён такую суму зарабляе за адзін-два дні. Пасля гэтага спытаў мяне пра кватэру. Я добрасумленна прызнаўся, што мая кватэра мае 47 квадратных метраў. Знаёмы трыумфальна рассмяяўся і раптам у яго паявілася жаданне запрасіць мяне да сябе ў госці. Я зразумеў, што робіць ён гэта з адной думкай, каб дабіць мяне маральна, паказаць чорна на белым маё ўбоства. Аднак у сувязі з тым, што на пачатку размовы я сказаў, што маю час, бо цягнік у Варшаву будзе толькі праз шэсць гадзін, не мог цяпер выкруціцца і мусіў прыняць запрашэнне. З горда паднятай галавой знаёмы падвёў мяне да мэрцэдэса, пасадзіў побач сябе і рвануў з такой хуткасцю, што мая галава адкінулася назад. Тут жа знаёмы правёў „экзамен“, спытаў мяне пра тэхнічныя дадзеныя мэрцэдэса, пра колькасць цыліндраў і колькасць конскіх сіл, пра максімальную хуткасць, пра колькасць паліва, якое спальвае ён на сто кіламетраў. „Экзамен“ я здаў вельмі слаба. І чым менш трапна адказваў я на пытанні, тым болей было самазадавальнення на твары знаёмага. Ад мэрцэдэса перайшоў знаёмы да дырэктараў дэпартаментаў і міністраў, якія чыняць у яго варштаце свае машыны, або звяртаюцца да яго з рознымі справамі. З рэляцыі знаёмага вынікала адназначна, што высокапастаўленыя людзі, сярод якіх былі апрача міністраў, таксама акцёры, адклікаюцца да яго не толькі ў справе рамонту машын, але таксама даражаць яго радамі, поглядамі і меркаваннямі.

Урэшце мы заехалі на нейкае прадмесце і знаёмы затрымаў машыну перад маленькім скромненькім домікам і сказаў: я тут жыву. Я пачаў адкрываць дзверы, каб выйсці з машыны, і тады знаёмы грымнуў смехам:

— Ды што ты сапраўды мо падумаў, што я жыву ў такой сабачай будзе?

Сказаўшы гэта, праехаў яшчэ метраў дзвесце і затрымаўся перад трохпавярховай вілай.

— Вось гэта мая хатка! — заявіў.

Я, пераканаўшыся з усёй размовы і захавання, што маю дачыненне з чалавекам, які адурэў ад таго, што яму жыццё падкінула многа грошай, пастанавіў больш не рэагаваць, не захапляцца і не асуджаць таго, што ён мне скажа або пакажа.

Увайшлі мы ў сапраўды раскошны дом. Знаёмы адкрыў дзверцы ў бары, у якім стаяла многа бутэлек. Заявіў пры гэтым, што ў яго бары сто бутэлек каньякоў і водак, спытаў, што буду піць. Я сказаў, што вып'ю віскі.

— З мёдам ці без мёду? — спытаў гаспадар.

— Без мёду, — адказаў я.

— Без мёду п'юць толькі варвары! — адказаў гаспадар. І каб не дабіць мяне да канца, паясніў, што так гавораць англічане.

Неспадзявана гаспадар мяне спытаў, ці я быў недзе па-за граніцамі. Не паспеў я адкрыць рота, каб адказаць, калі гаспадар мяне ўжо выручыў.

— Навошта я пытаю пра такое? — сказаў. — Зарабляючы такую мізэрную суму грошай, як ты, не толькі не паедзеш за мяжу, але дай Бог, каб хапіла на білет да першай лепшай гміны ў Польшчы. Я не стаў пярэчыць.

Гаспадар на момант прапаў і вярнуўся з аграмадным альбомам.

— Пазнаёмлю цябе са сваёй страсцю! — заявіў.

Калі адкрыў альбом, аказалася, што запоўнены ён адкрыткамі з рознымі дзівамі свету, тыпу індыйскіх святыняў, Эйфелевай вежы, вадаспаду Ніягара, статуі Свабоды і Музея васковых фігур у Лондане.

Аб усіх гэтых дзівах гаспадар апавядаў мне так, як бы ён іх не толькі бачыў, але і іх асабіста збудаваў. Тлумачыў мне ўсё, як настаўнік тлумачыць дзеткам першага класа, якія першы раз у жыцці бачаць атлас або нейкую іншую рэдкую кнігу. Асаблівую ўвагу звярнуў на Ніягарскі вадаспад, Эйфелеву вежу, статую Свабоды і Музей васковых фігур. Пры гэтым пачаў гаварыць розную бязглуздзіцу, якая не мела нічога супольнага з сапраўдным характарам аб'ектаў.

Я, выпіўшы свае віскі, сказаў гаспадару, што ў тым, што ён гаворыць, вельмі многа недакладнасці і сказаў тое-сёе і аб Эйфелевай вежы і аб статуі Свабоды і Ніягарскім вадаспадзе і аб Музеі васковых фігур.

— Адкуль ты аб гэтым ведаеш? — здзівіўся гаспадар.

— Быў у Англіі, Францыі, Амерыцы і асабіста бачыў усе аб'екты, аб якіх ты мне расказваеш свае казкі.

Твар гаспадара пазеляне́ў. Візіт мой пачаў стрымгалова прыбліжацца да канца. На вакзал гаспадар мяне не адвёз. Вывеў на вуліцу і паказаў, як дайсці да стаянкі таксі. Калі мы развіталіся і разышліся, нам стала аднолькава лёгка.

**Алесь Барскі**

# Сустрэчы

Са значным спазненнем выйшаў падвоены нумар студэнцкага часопіса „Сустрэчы“, падрыхтаваны да публікацыі яшчэ ў мінулым годзе. Прычыны замаруджання выпуску „Сустрэч“ такія ж самыя, што і ў 1983 годзе, калі выходзіў першы нумар. Часопіс выдае Рада культуры студэнтаў беларускай нацыянальнасці — арганізацыйная структура, якая дзейнічае пры Згуртаванні польскіх студэнтаў. Як такая, Рада мае права на ўдзел у фінансавых сродках Згуртавання, якія павінны забяспечваць яе выдавецкую ці нейкую іншую дзейнасць. Нельга аднак не заўважыць, што Згуртаванне польскіх студэнтаў трактуе сваіх членаў-беларусаў як мачаха, а не як маці. Нейк для беларускіх студэнтаў не хапае то грошай, то паперы, або месца ў чарзе да друкарні. У такіх абставінах выдаванне „Сустрэч“ я лічу немалым подзвігам і, вядома ж, зусім не схільны папракаць рэдакцыю за спазненні ці іншыя недахопы, якіх, зрэшты, з году на год штораз менш.

„Сустрэчы“ №№ 10-11 падрыхтавала новая рэдакцыйная група, ужо трэцяя ў гісторыі выдавання часопіса. Першую рэдакцыю ўзначальваў Ян Максімюк (яна выпусціла два нумары), затым быў Валянцін Сельвясюк (сем нумароў), цяпер рэдакцыяй кіруе малодшы Макс, Аляксандр Максімюк. Да гэтай пары мастацкую апрацоўку часопіса рабіў Лёнік Тарасэвіч, у апошнім выпуску „Сустрэч“ яго падмяніў таксама выпускнік Мастацкай акадэміі ў Варшаве — Юрка Навацкі. Як звычайна бывае ў выпадку такіх „пераходных“ нумароў, паяўляюцца новыя элементы ў часопісе, але шмат што астаецца ад папярэдняга, выпрацаванага ранейшымі рэдактарамі. З прыемнасцю трэба адзначыць, што новая рэдакцыя не змяніла ў корані вобліку „Сустрэч“, захоўваючы тое найлепшае, што стварала „стыль“ і адметнасць гэтага часопіса. „Сустрэчы“ сапраўды застаюцца далей беларускім студэнцкім часопісам, і то часопісам цікавым. Нельга аднак не ўказаць на адну даволі дзіўную і мала суцяшальную акалічнасць: у рэдакцыі далей няма ніводнай асобы з беларускай філалогіі (паясню, што беларуская філалогія ў Варшаве з'яўляецца універсітэцкім напрамкам, дзе студэнты, у большасці беларусы, між іншым вучацца чытаць і пісаць па-беларуску). Чаму ж тады іхнія веды прападаюць дарма, чаму ж над часопісам даводзіцца гарбецць адно будучым матэматыкам ці лекарам? Баюся, што пытанне гэтае і далей астанецца рытарычным. „Прафесіянальны“ склад рэдакцыі наступны: Аляксандр Максімюк (інфарматыка), Хрысціна Андраюк (русістыка), Хрысціна Гаўрылюк (германістыка ды іберыстыка), Бася Кучынская (медыцына), Юрка Навацкі (мастак), Юрка Ляшчынскі (геаграфія), Анна Наумчук (юрыстыка), Аляксандр Петручук (тэалогія), Марак Тапалеўскі (эканаміст). Вось табе і на!

У звароце да чытачоў рэдакцыя выясняе адну акалічнасць: „Сустрэчы“ з'яўляюцца часопісам Рады культуры. Рэдактары лічаць патрэбным даць такую заўвагу, паколькі ў беларускім студэнцкім асяроддзі ўзнікла яшчэ адна арганізацыя: Беларускае аб'яднанне студэнтаў. Рэдакцыя, зразумела, не хоча нейкага непатрэбнага спаборніцтва ў беларускім асяроддзі, і ў доказ таму лаяльна публікуе асноўныя дакументы, звязаныя з рэгістрацыяй БАСа: прашэнне аб рэгістрацыі, адмову ўлад, адкліканне і рэгістрацыйны акт. Такім чынам „Сустрэчы“ працягваюць добрую традыцыю дакументацыі беларускага студэнцкага руху ў Польшчы.

Доказам вялікай увагі рэдакцыі да гістарычнай тэмы з'яўляецца публікацыя нарысу доктара Юры Туронка пра гісторыю беларускага школьніцтва на Беласточчыне. У часопісе змешчана першая, каротшая частка нарысу, якая кампетэнтна асвятляе праблему з беларускай асветай у 1915-1944 гадах.

Ды ўсё ж такі гэты выпуск „Сустрэч“ здамінавала літаратурная тэматыка. Пад агульным загалоўкам „У нас у гасцях „Белавежа“ — ПНР“ студэнты змяшчаюць жменю пародый, нярэдка з'едлівых, на творчасць некаторых літаратараў групы „Белавежа“. Гэта — як ушанаванне заслуг „Белавежы“ для беларускай культуры і адначасна студэнцкае адзначэнне 30-годдзя літаб'яднання.

Аляксандр Максімюк на старонках часопіса асвойвае для беларускай літаратуры зусім новую, як мне здаецца, вершаваную форму — лімерык. Робіць гэта няблага і лімерыкі тыя добра чытаюцца нават тымі, для якіх не ўсе намёкі ясныя і выразныя. Сілай англамоўных лімерыкаў з'яўляецца або чысты абсурд або не заўсёды цэнзурныя сексуальныя дывагацыі. Максімюк у ёмкую форму лімерыка ўкладае грамадскую сатыру.

Затым рэдакцыя публікуе выдатны тэкст беларускага барда Сяргея Сокалава „Прыстанкі“ і малавядомы, але не менш выдатны, верш Ларысы Геніюш „Цуд“. Да таго яшчэ ў „Сустрэчах“ знойдзем два ўрыўкі з „Уліса“ Джэймса Джойса ў перакладзе Яна Максімюка.

У гутарцы з інспектарам БГКТ Хведарам Галёнкам студэнты закранаюць істотную тэму гаспадарчай дзейнасці ў беларускім асяроддзі. Як абяцаюць, тэму гэтую будуць працягваць і далей.

„Сустрэчы“ замыкаюць хроніка падзей у студэнцкім руху (у тым і фатаграфічная) ды агляд пошты. Як адно, так і другое зроблена з густам і ў студэнцкім стылі.

Коратка кажучы, выпуск атрымаўся добры і цікавы. Варта завязаць з ім знаёмства. Можа недарэчы, але закончу ўсё адной інфармацыяй: „Сустрэчы“ №№ 10-11 каштуюць 200 злотых польскіх.

**Максім Янюк**



 

## БЕЛАРУСІКІ


Smułkowa Elżbieta, Frekwencja tekstowa białoruskich typów akcentuacyjnych rzeczowników (na podstawie próbek tekstów gwarowych z okolicy Witebska i Sokółki). *Acta Baltico-Slavica* t. 16, 1984, s. 263-277, tab.

Sobczyk Stanisław, Białoruskie „Azoty" bliskie Polsce. W bratnich partiach. Korespondencja z ZSRR. *Życie Partii* 1985, nr 2, s. 22-23.

Sobolewskij Jurij, Czerlunczakiewicz Włodzimierz, Sposób betonowania ścian szczelinowych stosowany w Białoruskiej SRR. *Inżynieria i Budownictwo* 1982, nr 5, s. 41-42, il.

Socyalisticzeskije prieobrazowanija w ekonomikie Biełorussii w 1917—1920 gg.. Mińsk 1966. Rec Tomaszewski Jerzy, *Kwartalnik Historyczny* 1967, nr 3, s. 846-850.

Sokoł Stiepan, Socyologiczeskaja i politiczeskaja mysl w Biełorussii wo II połowinie XVI wieka, Mińsk 1974. Rec. Kijas Artur, *Acta Baltico-Slavica* t. 10: 1976. s. 381-383.

Sołodkow Timofiej, Bolszewitskaja gazieta „Prawda" w Biełorussii (1912—1917 gg.), Izd. 2. Mińsk 1972. Rec. Centkowski Jerzy, *Zeszyty Prasoznawcze* 1973, nr 4, s. 131-133

Sołomiewicz I., Białoruska folklorystyka XIX w., Tł., *Literatura Ludowa* 1967 nr 1/3, s. 15-28.

Sołomiewicz Iwan, Michał Federowski folklorysta i etnograf Białorusi, skrót. tł. Anna Kononowicz. *Życie i Myśl* 1971, nr 6, s. 110-117.

Sorokin A. A., Agrarnyj wopros w Zapadnoj Biełorussii (1920—1939 gg.), Mińsk 1968. Rec. Kuczkowska Ewa, *Studia z Dziejów ZSRR i Europy Środkowej*, t. 5, 1969, s. 248-251; Tomaszewski Jerzy, *Przegląd Historyczny* 1972, z. 2. s. 323-330

Sorokin Aleksiej, Oswoboditielnoje i riewolucyonnoje kriestianskoje dwiżenije w Zapadnoj Biełorussii (1920—1939 gg.), Mińsk 1970. Rec. Iwański Gereon, *Z pola Walki* 1971, nr 4, s. 383-386; Tomaszewski Jerzy, *Przegląd Historyczny* 1972, z. 2, s. 323-330

Staronki litaraturnych suwiaziej, Mińsk 1970. Rec. Białokozowicz Bazyli, *Przegląd Humanistyczny* 1973, nr 5 s. 175-179

Starościak Jerzy, Administracyjne prawo Białorusi roku 1966. *Rada Narodowa* 1967, nr 15, s. 16-17.

Stępień Stanisław, Działalność posłów białoruskich w Sejmie RP w latach 1922—1927 *Studia Historyczne* 1981, z. 2, s. 261-276.

Stępniak Piotr, Na skróty do Brześcia (Budowa gazociągu Białoruś—Polska). *Polityka* 1985, nr 47, s. 13-14, il.

Stochel Włodzimierz, Powstanie styczniowe w literaturze białoruskiej. *Przegląd Humanistyczny* 1972, nr 1, s. 83-98

Stochel Włodzimierz, Adam Mickiewicz. Aleksander Puszkin i Taras Szewczenko w literaturze białoruskiej lat 1863—1917. *Studia Polono-Slavica-Orientalis. Acta Literaria* 1976, t. 3, s. 7-52.

Stochel Włodzimierz, Poznawatielno-wospitatielnyje elemienty wojennoj prozy Wasilija Bykowa. Fragm. ref. *Przegląd Rusycystyczny* 1978, z. 2, s. 80-82

Stoczkowski Wincenty, Tajne nauczanie w Grodnie. *Przegląd Historyczno-Oświatowy* 1974, nr 3.

Stralcou Michaś, Co się nam przyśni, Opow., tł. Aleksander Sambor *Literatura na Świecie* 1982, nr 11, s. 127-131.


P. C.

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Беласток. Вул. Лонкова. Малюнак У. Петрука.*

### БЕЛАРУСКІЯ ФІЛЬМОЎЦЫ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

У другім тыдні мая ў Польшчы знаходзілася група беларускіх фільмоўцаў, якія пабывалі таксама і ў нас, на Беласточчыне. Кінарэжысёр Уладзімір Колас з кінастудыі „Беларусьфільм", кінаапэратар Леў Слобін і гукарэжысёр Алесь Тыцюха (абодва з Беларускага тэлебачання) працуюць у апошнім часе над фільмам, які мае рабочы загаловак „Сны аб Беларусі". У гэты фільм хацелі б яны ўключыць і кадры аб беларускім школьніцтве ў ПНР. Таму менавіта прыехалі на Беласточчыну, дзе мелі магчымасць пазнаёміцца з працай Беларускага таварыства і „Нівы", а таксама пабываць у Бельску, Орлі і Пашкоўшчыне.

У Бельску беларускія кінематографісты здымалі вучняў Беларускага ліцэя ў часе матуральных экзаменаў, а таксама бралі інтэрв'ю ў вучняў і настаўнікаў ліцэя.

Сустрэліся таксама з вучнямі школы ў Орлі, дзе дырэктарам з'яўляецца Анатоль Мартыновіч. Арлянскія дзеці мелі нагоду сустрэцца з вядомым паэтам-„белавежцам" Віктарам Шведам. І гэтую сустрэчу таксама запісалі на плёнку. Заехалі таксама ў школу ў Пашкоўшчыне, якая славіцца здольным мастацкім калектывам.

Адным словам, фільмоўцаў інтрыгаваў сучасны стан навучання беларускай мовы, цікавіла іх, як веданне роднай мовы ўплывае на маральнае аблічча чалавека. Будучы ў Варшаве, нашы госці сустрэліся з загадчыкам кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта Алесем Баршчэўскім, які расказаў ім не толькі пра кафедру, але і пра літаратурную дзейнасць „белавежцаў", аб якой гаварыў ім і Сакрат Яновіч.

Беларускія кінематаграфісты запрапанавалі нам цікавую справу: каб у Беластоку, у часе Дзён савецкіх фільмаў, якія штогод адбываюцца ў кастрычніку-лістападзе, паказаць некалькі фільмаў іх аўтарства. Гэтыя фільмы расказваюць аб вядомых беларускіх пісьменніках і, праўдападобна, зацікавілі б беластоцкага гледача. І гэта былі б такія фільмы, як „Прысады жыцця" (пра Максіма Гарэцкага) па сцэнарыю Арсеня Ліса; „Я не самотны" (пра Максіма Багдановіча) па сцэнарыю Рамана Тармолы і фільм пра Янку Купалу па сцэнарыю Георгія Коласа. Гэтыя фільмы былі пастаўлены на тэлебачанні аператарам Львом Слобіным; а рэжысёрам быў нежывучы ўжо сёння Ігар Калоўскі.

З фільмаў, пастаўленых на кінастудыі „Беларусьфільм", яны запрапанавалі „Малады дубок", сцэнарый і пастаноўка Уладзіміра Коласа. Гэта каротказаметражны мастацкі фільм паводле апавяданняў Якуба Коласа. Або вось сучасная камедыя „Барвовая трава" паводле сцэнарыя Алеся Дударава, якую паставіў Уладзімір Колас.

Спадзяемся, што Беластоцкая цэнтраля распаўсюджвання фільмаў зацікавіцца такой прапановай і ўключыць гэтыя фільмы ў план асенняга агляду савецкіх фільмаў.

**Ада Чачуга**

## У КРАІНЕ НЁМАНА

— 4 —

На аўтарскай сустрэчы ў прафесійнай школе найлепей пачуваў сябе Віктар Швед са сваімі вершамі для дзяцей. Дануся падняла бунт, калі ў наш прэзідыум данеслі першую картку: „Расскажите, как вы начали писать?" — Хай на такія запыты адказвае Аляксей Карпюк! — і наступіў канец імпрэзе, і вучні з палёгкай рынуліся ў дзверы. У бібліятэцы мы паўпісвалі ў памятную кнігу звычаёвыя пажаданні, пры нагодзе перакрэсліўшы нахабна — на кардоннай абвестцы — памылку з „Моя Беларусь" на „Мая Беларусь"... Віктар і я далі інтэрв'ю мясцовай газеце. Нагаварылі, што думалі, як і трэба ў „перастройку". Пачакаем, што з гэтага надрукуюць.

Усім кагалам пацягнула нас над Свіцязь, унікальнае ў прыродзе возера і, адначасна, сардэчна знаёмае таксама кажнюткаму, сяк-так культурнаму, паляку. На памосце — Смашч дэкламаваў Адамаву баладу, а там, дзе забыўся яе, дапамагаў яму Сідорскі. Рэшта, з маўклівым шафёрам ды гаваркою таварышкай з ведамства культуры, утварыла публіку, якая захоплена галаслівіла і апладысменціла.

Дайшло да нашага наезду і на замак у Міры. Шэф брыгады кансерватараў, што выратоўваюць яго ад загубы, энергічны Эдзік Далінскі несумненна ўсё ведае пра аб'ект сваёй работы, аж па адносныя фрагменты з „Пана Тадэвуша" па-беларуску. Не спадзяваўся мусібыць, што сярод нас слухае яго байчэйшы спец ад мірскіх падзей, якраз Дыяніз Сідорскі, галоўны рэдактар беластоцкага штомесячніка „Кантрасты" і апісальнік Радзівілаў. „Пане Каханку", вітаючы Станіслава Панятоўскага як манарха Рэчыпаспалітай, знарочна надзеў быў на сябе старыя транты, апавясціўшы, што прэзентуюць яны багацейшую традыцыю і славу, чымсьці каралеўскі касцюм на шляхтаватым Стасю... Князь Радзівіл уфундаваў сабе ўласнага караля, зрабіўшы ім нейкага тутэйшага мешчаніна і прыдаўшы яму — мог тое — абсалютную ўладу над беларускімі цыганамі, разам з тым пацяшаючыся...

Папраставалі на Мінск. Сталіца БССР ужо раўня Варшаве і надалей безаглядна пашырае свае рубяжы. Маючы „комплекс Парыжа", бадай, засмокча сама меней чвэрць нацыі, што не паздаровіцца нешматлюднай Рэспубліцы. Спяшаючы ў Саюз пісьменнікаў, даехалі мы да Круглай плошчы новай падземкаю (метро). Прывезлі нас у Дом літаратара, бы дэсант які, на некалькі гарачых гадзін, каб да вечара адскочыць за дзвесце шэсцьдзесят кіламетраў, у Слонім. Няма грошай на нашу гасціну, крызіс — панове! — па абодвух берагах Буга. Ніл Гілевіч — памятае сваё першае замежнае інтэрв'ю, менавіта „Ніве" пяцьдзесят сёмага; Янка Брыль, з якім немагчыма абняцца, бо завысокі; Барыс Сачанка — набраўся бяды, як блох, за „На зямлі Беластоцкай", наклікаўшы дыпламатычны пратэст; прыпазніўся Васіль Зуёнак. З'явіліся і прадстаўнікі пасляваеннага пакалення, якое не ўяўляе ўзброенага немца, — Леанід Дранько-Майсюк, Уладзіслаў Рубанаў. Лоб у

 




## ХАЙ ВЕДАЕ ЎВЕСЬ СВЕТ

Найбольш падабаюцца мне ў вашай газеце артыкулы, у якіх можна ўведаць аб распаўсюджванні беларускага ў свеце.

Вельмі прыемна мне было чытаць публікацыю пра мастака Лявона Тарасэвіча. Упэўнены, што кожны беларус усцешыцца тым фактам, што наш суайчыннік стаў настолькі вядомы ў мастацкім свеце. Да таго ж, ён выклікаў у мяне вялікую павагу ўжо тым, што, нягледзячы ні на што, не цураецца сваёй беларускасці, тым, што шукае гармоніі сваёй душы з прыродай і ў дадатак нясе святло Беларусі ў вялікі свет. Імпануе і тое, што Лявон не хварэе „на пана“.

Асабіста мне вельмі блізкай аказалася жыццёвая філасофія „Васькавага Лёніка“, ягоны светапогляд і нават штодзённы побыт.

Я таксама купіў сабе хату на ўлонні прыроды (маючы кватэру ў горадзе) і жыву зараз амаль на беразе Буга. Таксама, як і Лёнік, валэндаюся па лесе са сваімі жывёлінамі, вырошчваю шмат кветак і ў хаце і ў садзе. Захапленняў многа, але галоўнае жаданне: пісаць, пісаць, пісаць...

Калі можна, прышліце мне дакладны адрас Лёніка, у знак павагі і захаплення хачу даслаць яму кнігі пра яго любімых галубоў, пра кветкі, а таксама грампласцінкі з апошнімі запісамі беларускай музыкі і песень. А калі захоча, то і лепшыя творы мастацкай літаратуры на беларускай мове.

З павагаю да вас
**Уладзімір Котаў, Брэст.**

P.S.
Пра Беларусь хай ведае ўвесь свет.
Сыны хай славяць ўсюдна яе веліч.
Было іх шмат дагэтуль, а цяпер
Хай гэта робіць
Лёнік Тарасэвіч!

**Ад рэдакцыі:** Адрас Лёніка такі:

Leon Tarasewicz,
Waliły,
16-040 Gródek.

---

Хачу праз вашу газету звярнуцца з просьбай да чытачоў. Калі хто ведае польскія песні, асобныя радкі якіх пішу ніжэй, хай адгукнецца і прышле мне іх тэксты. Калісьці ў дзяцінстве маці любіла іх спяваць. Зараз маці даўно няма, а мелодыі часта ўспамінаюцца. Вось радкі з гэтых песень:

1. *Dwunasta wybiła na miejskim zegarze.*
   *Więźniowie twardym snem śpią.*
   *Ale nie wszyscy, bo jeden z nich marzy.*
   *On widzi wolność za mgłą.*
2. *Wyszedł Jasiu na Bukowinę.*
3. *Skąd to wojsko, skąd to wojsko,*
   *Skąd to wojsko maszeruje?*

— Зразумела, песні гэтыя з даваенных часоў. Мой адрас:

220050 Мінск-50
пашт. скрынка 264,
Паўлюкавец Адам.

## ГУТАРКІ ЎДАРОЗЕ

### ПЕРАД ДАРОГАЙ

Чэрвеньскі дзень. Вясковая вуліца. Чакаем аўтобуса.

— Вы тут, вы яшчэ не паехалі? Аўтобуса няма...? Пэўна, і не будзе. Часта так бывае, псуюцца. А так доўга мы дабіваліся, каб ён быў, але, ведаеце, траса такая... Яшчэ не верыцца, што спалучылі нас са светам...

— Я чула, што хочуць ліквідаваць гэтую аўтобусную трасу...

— Нельга! Мы пасылалі ўжо дэлегацыі ў „Пэкаэс“ у Беластоку, каб не забіралі нам аўтобус. Нам сказалі, што замала людзей ездзіць, а аўтобусы патрэбныя на перапоўненыя шляхі. Але ж. самі ж бачыце, колькі людзей хоча ехаць. Заўсёды поўны самаход! Адкуль жа яны ў Беластоку ведаюць, што людзей мала?!

— Я яшчэ заўважыла, што вадзіцель бярэ грошы, а вы білетаў не дамагаецеся — вось і цэлая палітыка! Колькі білетаў, столькі і людзей.

— Які ж гэта грош за білет... Чаго яму шкадаваць, хай чалавек даробіць крышку. Кожнаму ж цяпер цяжка... Адказная праца — людзей вазіць. Будзьма людзьмі...

— Яму ж і за гэта плацяць, што людзей возіць. Кожны павінен быць на сваім месцы і рабіць усё як трэба. А так, дзякуючы такім, уся наша гаспадарка развальваецца!

— Якая там гаспадарка! Хай тыя, што на вярхах, робяць, як трэба. Як сам робіш на сваім, то і пільнуеш...

— А што, усе крадуць, як ты не ўкрадзеш, то іншы возьме. А колькі ўсяго валяецца... А зрэшты, мы пра гэтага вадзіцеля. А хай і возьме тых пару злотых. Узяў мае грошы, я паехаў, але мог і не паехаць. „Пэкаэс“ не збяднее, і я не збяднеў, бо і так трэ было ехаць, а і гэты чалавек не збагацеў. Куфаль піва вып'е на здароўе, пасля работы. Адказная ж работа, людзей жа вязе, не дровы. Калі так чапляцца да дэталяў, то не далося б жыць, як той казаў. Я там чалавек просты, справядлівы, думаю. Жыві сам і дай іншаму пажыць. Чаго там лезці ў вялікую палітыку...

— Праўда, што мы там палітычнага выдумаем, ці што зробім...

— Сучасны чалавек павінен ведаць, чаго хоча!

— Сучасны... Мы простыя халопы, тутэйшыя людзі. Вы не злуйце, прыязджаеце тут, нібыта па-свойму гаворыце, то і праўду вам сказаць можна. А і вы што з праўды маеце? Пішыце, друкуйце. Усё цяпер варушыцца ў свеце, памаленьку, як кіпецень, але калі толькі зняць яго з агню, бурбалкі ападуць. Жыву доўга, многа бачыў. Пабулькае, пабулькае, і перастане...

— Разварушыліся людскія масы! Цяпер не той час! Цяпер мы можам многа!

— Хто — „мы“..?

Тут і аўтобус пад'ехаў...

**Запісала Міра Лукша**

## ПАРНАСІК

*чытальніцкая літпаліца на нягарантаваных палях*

### МОЙ МАЛЕНЬКІ КРАЮ

Польшча ганарыцца Віслай,
Венгрыя — Дунаем,
А я вельмі ганаруся
Сваім родным Краем.

Гайнаўскай старонкай, бельскай
Ганарусь заўсёды,
Бо няма нідзе на свеце
Лепшага народу.

Родны край мой ёсць маленькі:
Роўны тром паветам,
Але я па ім сумую,
Як зімой, так летам.

Там лясы, палі духмяны,
Свежае паветра,
Калі станеш над Арлянкай,
— Хочацца ляцеці — ветрам.

Хочацца спяваць, крычаць
Быццам маладому,
Але жонка побач кажа:
„Хопіць, нам пара дадому“.

Дзе мой дом, дзе Радзіма?
Беласток мне домам?
Калі б мне вярнулась сіла,
Не пісаў бы я пяром,
а гваздзіў бы ломам.

Я патрэбны быў бы там,
Дзе пакінуў слёзы,
Дзе царкоўка ля Арлянкі,
Дзе я бегаў босы.

**Васіль Петручук**

12.02.89




(Працяг са стар. 1)

му загаду мірнай маніфестацыі. Замах не ўдаўся, і браты Іван і Антон Луцкевічы некалькі год скрываюцца, але свае дзейнасці не спыняюць. БРГ пераўтвараецца ў Беларускую сацыялістычную грамаду, у 1906 г. адбываецца другі з'езд партыі, на ім Івана Луцкевіча выбіраюць у яе Цэнтральны камітэт.

Па ініцыятыве І. Луцкевіча з удзелам яго брата Антона, А. Пашкевіч-Цёткі, Ф. Умястоўскага ў 1906 г. пачынае выходзіць першы легальны беларускі тыднёвік „Наша доля“, а пасля яе закрыцця царскімі ўладамі — „Наша ніва“, якой фактычнымі рэдактарамі і выдаўцамі доўгія гады былі Іван і Антон Луцкевічы. Якраз праз „Нашу долю“ і „Нашу ніву“ Беларусь падала свету свой голас пра тое, што яна жыве і ёй належыцца пачэсны пасад народні з іншымі народамі.

Багаты плён прыносяць навуковыя даследаванні І. Луцкевічам роднай мінуўшчыны, ягоныя шматлікія знаходкі паклалі аснову славутаму Беларускаму музею ў Вільні — першаму сапраўднаму музею ў нашай гісторыі. Дзякуючы намаганням І. Луцкевіча і дапамозе яму А. Пашкевіч-Цёткі паўстаюць першыя беларускія пачатковыя школы, а таксама Беларускія настаўніцкія курсы і Беларуская гімназія ў Вільні.



*Іван Луцкевіч у 1918 годзе.*

У гісторыі беларускага адраджэнскага руху канца XIX ст. і першых дзесяцігоддзяў XX ст. няма такой дзялянкі, у якую не ўнёс бы Іван Луцкевіч выдатнага, часцей за ўсё ініцыюючага ўкладу. У гэтай самаадданай працы для Бацькаўшчыны ён ахвяраваў усяго сябе, не пакінуўшы сваёй асобе дasлоўна нічога і выехаў лячыцца ў Закапанае ўжо амаль паміраючым...

У сённяшнім нумары „Нівы“ пачынаем змяшчаць частку ўспамінаў Юльяны Вітан-Дубяйкоўскай, блізкай сяброўкі Івана Луцкевіча, пра апошнія дні і часіны гэтага аднаго з Вялікіх Будаўнікоў Беларусі.

(іс)



*Вільня, вуліца Віленская № 33, дзе жыў у апошнія гады перад смерцю Іван Луцкевіч.*



 

# З ДРУКУ

## НІЧЫЕ ДУШЫ З ПАГРАНІЧЧА

Люблінскі тыднёвік „Relacje“ ад 13-19 красавіка г.г. змясціў артыкул Міраслава Гапанюка „Нічые душы з пагранічча“, які непасрэдна тычыцца нас, беластоцкіх беларусаў. Аўтар абапіраецца перш за ўсё на выказванні людзей з Беласточчыны, якія па розных прычынах апынуліся па-за ёю, вывозячы з сабою адчуванне сваёй няпоўнасці. „Усе жывуць па-за ёю (Беласточчынаю) — у Любліне або ў Варшаве. Апрача месца нараджэння спалучае іх адсутнасць пачуцця прыналежнасці да якога-небудзь народу...“ Далей ідзе гаворка аб нашых тут нацыянальных бедах: немагчымасці станоўчага акрэслення свае нацыянальнай прыналежнасці, пагарджэння гаворкі і літаратурнай мовы і вынікаючай з таго комплексу прыніжанасці. „Найчасцей сваю праваслаўную рускасць скрываюць з боязі перад насмешкамі і пагардаю або толькі для выгоды. Кожная іх дэкларацыя вымагае каментарыя і трэба талкаваць, талкаваць, талкаваць... Аднак і гэтыя тлумачэнні нераз здаюцца ні навошта, бо на канец і так найчасцей ставіцца пытанне: „То хто ты ў рэшце рэшт, беларус ці паляк?“.

Каго вініць за такое становішча, „Паню Гісторыю“ ці самых сябе? М. Гапанюк у сваім артыкуле задумваецца над гэтым, абапіраючыся на фактах. Прыводзіць вось хоць бы такі „эпізод“: „...у 1939 годзе Беласточчына ўвайшла ў склад Савецкай Беларусі і было сказана: вы беларусы і толькі ўсяго. Тых, хто меў нейкія сумненні (былі гэта найчасцей тутэйшыя палякі, хаця і не толькі), высылалі ў Сібір або Казахстан“. І далей піша: „Пасля вайны паўтарылі тое, каб не дурыць галаву нейкай там нацыянальнай бязглуздзіцаю. Не ўсе аднак у гэту сваю беларускасць умелі паверыць. Асабліва многа нерашучых пражывала на поўдзень ад Нарвы, дзе беларуская мова гучала па-чужому, неяк дзіўна, а нават крыху смешна“.

Польскаму чытачу можа здацца, што асноўная маса „непалякаў“ Беласточчыны — гэта сапраўды людзі без нацыянальнага твару і толькі жменька іх стварае, як гэта аўтар акрэсліў „zakompleksiony nacjonalizm białoruski“. Але гэта толькі мае асабістае адчуццё.

І, на канец, яшчэ выказванне аднаго з нашых землякоў: „Мая айчына, — кажа Пётр, — гэта вёска, у якой я нарадзіўся, і людзі, там пражываючыя. Тут, у Варшаве, не адчуваю да канца сябе, хаця пражываю тут ужо 14 гадоў. Але што ж я зраблю?“

Ці ж наша асаблівая прывязанасць да „маленькай айчыны“ не ёсць асноваю шырока зразумелага нацыянальнага патрыятызму?

**М. С.**

## УРОЧЫШЧА „БАРАВІСКА“

Каб трапіць з Бельска-Падляшскага ва ўрочышча „Баравіска“, што ў лесе каля Аўгустова, трэба перайсці або праехаць 5 кіламетраў шашой, да сажалкі ў вёсцы, ля дарогі „Сценка“. Далей, 970 метраў грунтавой дарогай у паўднёвым напрамку. У адлегласці 390 метраў ад пачатку дарогі пачынаецца лес. Злева — сасновы, справа — беразняк. Вельмі ўім прыемна! Хочацца пасядзець у лесе, паназіраць прыроду, падумаць над лёсам.

Хутка канчаецца бярэзіна. Далей па абодвух баках сасняк. Пясок ды пясок... Так даходзім да скрыжавання (1375 метраў ад шашы). Яшчэ 212 метраў проста і ўжо мы пры ручайку з бетанаванай крынічкай. Тут я меў намер будаваць праваслаўную каплічку. У адлегласці 580 метраў ад гэтага месца знаходзіцца васьміметровае ўзвышша са слядамі гарадзішча з V ст. н.э.

Супольна з мясцовым святаром а. Яўгенам Хадакоўскім паглядзелі мы месца каля крынічкі. Згодна дайшлі да вываду, што лепшым месцам будзе гарадзішча, дзе плануецца заляжыць могілкі. Гэта гістарычнае месца і тым, што калісьці стаяла тут праваслаўная царкоўка з бярвён-круглякоў, якая згарэла.

Зараз прыхаджане рыхтуюцца да пабудовы. Каплічка ў выглядзе ўсечанага конуса будзе збудавана з каменняў і бетону. Дыяметр асновы — 4 метры, дах бляшаны.

**інж. Б. Ф. Рудкоўскі**

Карта і графіка аўтара.




# ЮЛЬЯНА ВІТАН-ДУБЯЙКОЎСКАЯ
# СМЕРЦЬ ІВАНА ЛУЦКЕВІЧА

Закапанае
13 жніўня 1919 г.

Пасля бяссоннай ночы, у прыгожы ясны дзень, мы з Уладкам* прыехалі ў Закапанае і пайшлі проста да Лялі**. Яна прывітала нас са слязьмі радасці. Уладэк пайшоў шукаць сваё „схроніска“ і абяцаў быць а 9.30, каб разам паехаць у санаторый*** да Івана (гэта было 4 км.). Я засталася з Ляляй, яна мяне намовіла прылегчы, каб набрацца сілы на сённяшні дзень.

— Ляля, як маецца Іван, ці ёсць надзея перавезці ў Вільню, у Варшаве сябра Беларускага камітэта спаткае і дапаможа нам.

— Не, Юлінька, ён гэткі слабы, што ў дарозе памрэ, доктар на дні лічыць ягонае жыццё. Але як добра, што ты прыехала. Бедны Іван надта ж усцешыцца, як ён думае і чакае цябе!

— Але ж ты яму, як я прасіла ў лісце, не казала, што я збіраюся прыехаць да вас?

— Не, я не хацела непакоіць яго чаканнем. Ах, Юлінька, ён відавочна ўвесь час думае аб табе; ён кажа, што яму здаецца, быццам ты сядзіш каля яго. Раз ён мяне спытаў: „Ляля, ці Юлінька ў хаце часта плакала, калі я быў „немагчымым“?

— Што вы кажаце, пане Іван, Юлінька плакала, што вы хворы і ніколі не скардзілася на вас, — адказала я.

— Так, я ведаю, яна добрая, усё мне выбачыла, — адказаў Іван. — Але ты пабачыш, як ён павесялее, калі ты будзеш пры ім.

— Ляля, а можа Іван прычасціўся?

— Ах, не, Юлінька!

— Ну, аб гэтым я магу парупіцца. Я хачу ўвесь дзень застацца ў санаторыі, мусіць, мне там дадуць абед, а ты, Лялінька, пакажаш Уладку Закапанае, досыць, калі ты раз у дзень праведаеш Івана.

— Ну так, Юлінька, а цяпер ты засні гадзінку.

Стомленая, я задрамала, але хутка схапілася, бо непакой мучыў мяне, якім я яго пабачу, ці знайду сілы не паказаць свой боль, каб не плакаць. Уладак прыйшоў на час і мы паехалі. Ляля з Уладкам захапляліся прыгожымі краявідамі, але я была як бы адсутная, бо ўсімі думкамі была ўжо пры Іване.

Прыехаўшы ў санаторыю, я насамперш адшукала прыёмны пакой доктара, які меў Івана пад сваёй апекаю. Я папрасіла дазволу цэлымі днямі сядзець пры Іване.

— А так, — сказаў доктар, — пані можа есці абед пры агульным стале.

— Доктар, ці ёсць у санаторыі ксёндз, я б жадала, каб ён падрыхтаваў пана Івана да прычасця.

— А так, у нас ёсць сярод нашых пацыентаў вельмі сімпатычны ксёндз, у часе абеду я пазнаёмлю пані з ім.

Доктар выйшаў за мною, прывітаў Лялю і Уладка.

— Панна Ляля пойдзе першая да хворага з добраю навінаю, што ёсць госць з Вільні, — закончыў доктар.

Ад калідору да пакою хворага былі падвойныя дзверы і між імі як бы перадпакой. Уладак і я засталіся ў гэтых сенцах. Ляля ўвайшла і пакінула дзверы прыадчыненымі. Яна прывітала Івана і потым пачала:

— Пане Іване, сёння я маю добрую навіну, да вас прыехалі госці з Вільні.

— Што, што ты кажаш, Ляля, можа Юлінька? Дзе, дзе яна?!

Ён гатоў быў ускочыць з ложка. Я тады ўвайшла, за мной Уладак. Іван, пабачыўшы нас, пачаў і плакаць і смяяцца. За гэтыя ягоныя слёзы, нават, калі б я мела якісь жаль да Івана, то б усё яму прабачыла, яны сведчылі аб гэткай радасці, аб гэткай любові, што я ўзрушаная нічога не магла сказаць, толькі трымала ягоныя рукі і гладзіла іх.

— Мне здаецца, што я зноў у Вільні, калі бачу вас усіх разам, — пачаў урэшце Іван, — як міла, Уладак, што вы прыехалі, відаць, вас можна павіншаваць з матурай? Ну, тут адпачнеце ў Закапаным, вось і я тут папраўлюся, я чуюся значна лепш! — і ён зноў з радасцю паглядзеў на мяне.

— Я так рада чуць, што вы вяртаецеся да здароўя (пры чужых, апрача Лялі, мы звярталіся на „вы“), вось я застануся з вамі, пакуль вы памацнееце, каб разам вярнуцца ў Вільню.

— Так, ты застанешся пры мне, ты не пакінеш мяне больш, — вырвалася радасна ў Івана, ён хацеў яшчэ нешта сказаць, але замоўк. Ляля і Уладак пабачылі, што яны тут лішнія, і пачалі перапрашаць, што так хутка пакідаюць яго, але хочуць пехатою вяртацца ў пансіён на абед, а там трэба прыходзіць на час.

— Але, але, — сказаў Іван і паглядзеў на мяне.

— Я застануся на ўвесь дзень у санаторыі, тут буду і абедаць, а вячэраць пайду да Лялі.

Вочы Івана засмяяліся:

— Ну, ну ідзіце. Пакажы, Ляля, Уладку добра Закапанае, але мусіце мяне хутка зноў праведаць.

Мы засталіся адны.

— Юлінька, цяпер прывітайся са мной, як ты гэта рабіла ў Вільні. О, тут ніхто мяне не прылашчаў; як я сумаваў за табой і тваімі ціхімі пяшчотамі!

Я цалавала ягоны твар, галаву, вочы і казала яму мілыя словы.

— Вось я буду лепш засынаць, калі мне на сон, як даўней, вочы пацалуеш, — і ён туліўся да рук маіх, як хворае дзіця да маці.

— Ну, кажы, што ў вас у хаце чутно?

Я адказала, што ўсе, пачынаючы ад таты, шлюць яму прывітанні і пажаданні здароўя. Што інтарэс наш рухаецца і Люцак і Лідка працуюць у ім, а я вось прыехала сюды адпачываць і, калі ты набярэш сілы да падарожжа, вернемся ўсе ў Вільню, — закончыла я.

**(Працяг будзе)**

*) Уладзіслаў Маліноўскі, сваяк.
**) Ляля Мэнке, сястра.
***) санаторыю д-ра Длускага.

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Удзельніцы раённага агляду беларускай песні ў Беластоку Эва Ласкевіч, сёстры Івона і Аня Місеюк, а паміж імі — Маргарыта Юшчук. Усе з Беластока.

„БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ 89" ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ

# РАЁННЫ АГЛЯД У БЕЛАСТОКУ

14 мая ў Беластоку адбыўся раённы агляд сёлетняга конкурсу беларускай песні для школьнікаў. Як заўсёды, удзельнічалі ў ім прадстаўнікі са школ Беластока, а таксама з Ляўкова, Нарвы, Ласінкі і Рыбалаў.

Выступіла 66 удзельнікаў, у тым ліку 6 салістаў, тры дуэты, квартэт і вялікі хор.

55-асабовы хор прывёз з. Ляўкова настаўнік Васіль Целушэцкі. Суправаджала хор уласная група акардэаністаў — вучняў малодшых класаў. Настаўніку ўдалося дабіцца ад сваіх выхаванкаў вельмі дакладнай сугучнасці галасоў, добрага музычнага суправаджэння. Цешыла вока і эстэтыка выгляду ўсяго калектыву. Прыемныя, добрыя ўражанні пакінуў у слухачоў гэты хор.

Салістка гэтага хору Марыя Аліфер даўно ўжо навучылася добра спяваць і свабодна і культурна весці сябе на сцэне. Сёлета яна канчае восьмы клас і маем надзею, што ў хуткім часе ўбачым яе ў конкурсе беларускай песні для дарослых.

Адзіным хлопцам сярод салістаў быў Адам Жарначук з Рыбалаў. Ён заспяваў дзве песні, напісаныя кіраўніком вядомага ў нашым асяроддзі мастацкага калектыву дарослых „Хлопцы-рыбалоўцы" з Рыбалаў Мікалаем Ігнацюком. І выканаў ён гэтыя песні з асаблівым пачуццём. Цудоўныя песні і не менш цудоўны голас у Адася. Вялікія бравы атрымаў ён ад сяброў-слухачоў.

Марыя Аліфер і Адам Жарначук у гэтым аглядзе занялі раўназначнае першае месца.

З Нарвы прыехалі на раённы агляд дзве пары сясцёр — Івона і Агнешка Зубрыцкія і Эва і Кася Карабкевіч. Падрыхтаваў іх да конкурсу настаўнік музыкі Кастусь Юшкевіч, а акампаніяваў на гітары кантрабасіст калектыву „Дубіны" Ірэк Прыходскі. Сёстры выступалі сола і ў дуэтах, а разам — нават у квартэце. Добрыя галасы ў дзяўчат, добра падрыхтаваліся і вельмі прыемна было слухаць іх багаты вянок беларускіх песень.

Эва Карабкевіч і Агнешка Зубрыцкая занялі раўназначныя другія месцы. А ў дуэтах — Эва Карабкевіч з сястрой Касяй занялі першае месца, а Агнешка Зубрыцкая з сястрой Івонай — другое месца.

Выступіла таксама з Нараўскай гміны, але са школы ў Ласінцы, Эля Несцярук. Выступала першы раз на конкурсе, моцна хвалявалася, але заспявала нядрэнна.

Значна скрамней, чым у мінулым годзе, паказаў сябе горад Беласток. Сказалася моцна тое, што шматгадовая апякунка музычна здольных дзяцей-беларусаў Ала Дубец ужо не жыве ў Беластоку, выехала ў другі канец Польшчы, а дзеці засталіся без музычнага кіраўніка. Маладыя беластачане-аматары беларускай песні прабавалі самі арганізавацца, каб выступіць у конкурсе. І выступілі, нават нядрэнна. Але, як аказалася, без добрага кіраўніка — гэта справа нялёгкая. Гонар Беластока ўласнымі сіламі баранілі Маргарыта Юшчук, Эва Ласкевіч і дуэт сясцёр Івоны і Ані Місеюк.

Беластоцкія салісткі Эва Ласкевіч і Маргарыта Юшчук атрымалі дыпломы за добрае выступленне, а дуэт Івоны і Ані Місеюк заваяваў трэцяе месца.

На цэнтральны агляд журы вытыпавала ўсіх, каму былі прызнаны першыя і другія месцы, а гэта: салісты Адам Жарначук з Рыбалаў, Марыя Аліфер з Ляўкова, Эва Карабкевіч і Агнешка Зубрыцкая з Нарвы. З дуэтаў — сёстры Эва і Кася Карабкевіч і сёстры Івона і Агнешка Зубрыцкія.

А таксама ляўкоўскі школьны хор.

Аб цэнтральным аглядзе беларускай песні для школьнікаў — у наступным нумары.

Яніна Чэрнякевіч
Фота аўтара

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Станіслаў Шушкевіч

### НЕПАСЕДЛІВЫЯ ВАВЁРКІ

Павесілі шторкі
У дупле вавёркі,
Каб малыя добра спалі,
Камары іх не кусалі...

Але ж дзеці да світання,
І, вядома, да сняданпя,
Высунулі пысачкі,
Хочуць з хаты выскачыць.

Кажуць маме: чорны дзяцел
Не дае ім спаць у хаце,
Вострай дзюбкай грукае,
Па сасонцы цюкае.

— Дазволь, наша мамачка,
Паскакаць па ганачку.
Глянь, ужо па соснах
З досвітку не росна.
Вазьмі з сабой у ляшчыннік,
Мы не згубімся, не згінем.

### ВЫМАК ЗАЙЧЫК У РАСЕ

Бегаў зайчык па расе,
А цяпер на пень прысеў.
Галасочкам тоненькім
Просіць зайчык сонейка:
— Падыміся ўверх, вышэй,
Бо азяб я да вушэй.
Адубелі, нібы ў жабкі,
Мае мокранькія лапкі.
Сонейка над лесам свеціць,
І прыціх халодны вецер.
Заспявалі птушкі хорам,
І прапала ў зайкі гора.



Ларыса Геніюш

### УНУКІ

Доўга, доўга бег цягнік,
Покуль не спыніўся.
Ён марудзіць не прывык,
Вось і замарыўся.
І прыехалі да дзедкі
Унукі-малышы ў адведкі.
Глянцам зззяюць клункі —
Гэта падарункі:
Дзеду — акуляры
Ў дарагім футляры.
Бабулі — хусцінку —
Вясёлкі часцінку.
Дзед вітае:
— Мае дзеткі! —
І бабуля:
— Мае кветкі! —
І Тарзанчык: „Гаў-гаў-гаў!"
І кот Мурзік: „Мяў-мяў-мяў!"
Унукі цешацца і скачуць.
А бабуля з дзедам плачуць.
— Гэта з радасці, унукі,
Пасля доўгае разлукі.

# КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 1) „арыстакрат" сярод грыбоў, 6) сталіца ў Еўропе, 10) грабе ваду, 11) гвалт, 12) пруткія сцяблінны, 13) старажытная немецкая манета, 14) у яго лепш не заглядвай, 15) казашка, японка і в'етнамка, 16) на пытанне, 19) стварае некапомнае, 23) нефармалы з Мінска, 26) два канцы, двое кольцаў, а ў сярэдзіне цвік, 27) з зубамі, але не грызуць, 28) чалавек, які енчыць ды енчыць, 29) знішчэнне народа, 30) „ён мне набіў", 33) скамплікаваны інструмент, 37) „фанар" на целе, 40) варыць і смажыць, 41) суседка беларуса, 42) рагатая жывёла або бескультурныя людзі, 43) няўмека, 44) свідруе ў зубах, 45) вораг народа з далоні, 46) паўторы ў вершы, 47) каштоўны фіялетавы камень.

**Уніз:** 1) вялікі горад у Азіі, сталіца Тайланда, 2) казачная дзяўчына над Свіцяззю, 3) васількі, 4) васілёк, 5) волат, 6) адлюстраванне або ўяўленне, 7) твой родны кут, 8) дзеляцца ёй каталікі за сталом, на куццю, 9) навакольле паселішча, 17) канец жніва, 18) паветраны транспарт, 20) піша рамантычныя творы, 21) за Уралам, 22) не адна ў бібліятэцы, 23) на трасе БАМу, 24) стужка, 25) у ёй усё можа здарыцца, 30) жаночае адзенне, 31) суседка грузінкі, 32) чай, 34) „што гэта будзе?", 35) найчасцей у дзежках, 36) навуковая праца або міжнародны дагавор, 37) брэша, 38) бяда, гора, 39) перакладзіна над вадой.

„Ядань"

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны дзве кніжныя ўзнагароды.

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 18.**

**Упоперак:** Беларусь, быт, ліхтар, драбіна, страха, нектар, Амур, верш, сон, чарада, чарка.

**Уніз:** Багдановіч, лета, рабіна, сілас, батрак, тур, трубач, арэнда, корч, ранак, шах, сыр.

Кніжныя ўзнагароды выйгралі: Альжбета Тыневіцкая з Піліпкаў і Вольга Семяновіч з Верцялішак.







# АФАРЫЗМЫ

*

Калі будзем вучыць людзей таго, як павінны думаць, а не вечна, што павінны думаць, пазбегнем многіх непаразуменняў.

*

Надта тонкія людзі зрэдку бываюць вялікімі.

*

Па праўдзе кажучы, не магу сказаць, ці будзе лепш, калі будзе інакш; але магу сказаць столькі, што мусіць быць інакш, калі мае быць добра.

*

З любві да айчыны выпісваюць такое, што з-за гэтага чужыя высмейваюць нашу ўлюбёную краіну.

*

Заўсёды баліць мне душа, калі паміpae таленавіты чалавек; свету больш патрэбныя такія людзі, чым небу.

*

Надта небяспечна, кажа Вальтэр, мець рацыю ў тых справах, у якіх уладары гэтага свету рацыі не мелі.

*

Каб нарабіць галасу, бярэцца найчасцей найменшых людзей, барабаншчыкаў.

*

Няўжо гэта не дзіўна, што людзі ахвотна змагаюцца за рэлігію, а так неахвотна жывуць паводле яе ўказанняў.

*

Вялізныя памылкі найчасцей апраўдваюць па-вучонаму.

*

Людзі, якія заўсёды не маюць часу, найменш працуюць.

**Георг Хрыстафар Ліхтэнберг**

## МАНАЛОГ СТАЛАГА ЧАЛАВЕКА Ў РАЦІНАВЫМ ПАЛІТО І ПЫЖЫКАВАЙ ШАПЦЫ

— Ненавіджу даўганосых!
І яшчэ — даўгавалосых.
Тых, хто ездзіць у трамваі
і мяне ў бок штурхае!
Ненавіджу ўсёй душою,
хто ў чарзе перада мною,
Ненавіджу ўсе газеты,
дзе няма мяне, паэта!
Ненавіджу да адчаю
тэлевізар. Не ўключаю.
Задавіў бы ўласнаручна
„нефармалаў" ўсіх. Выключна!
Адамовіча і іншых
я б у Курапатах знішчыў!
Ненавіджу пацыфістаў,
экстрэмістаў, футбалістаў!
Ненавіджу я кубізм!
Палітычны нігілізм!
Гэта ўсё — ідыятызм!
Хай пануе плюралізм!..

**Генадзь Давыдзька**

*(„Літаратура і Мастацтва" № 17 ад 28 красавіка 1989 г.)*





— Штосьць табе скажу, але нікому ні слова.



— Джані, круці хутчэй! Сёння я хачу патраціць многа кілаграмаў...

# СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

## ОЙ, У ЛЕСЕ ПРЫ ДАЛІНЕ
**(народная)**

*Ой, у лесе пры даліне*
*Кучаравы дуб стаяў.*
*Пад тым дубам зеляненькім*
*Хлопец дзеўку намаўляў.**

*Маня косу расчасала,*
*Жоўту ленту уплѧла,*
*Нахілілась на грудзь Ваню*
*Ды ціхонька плакала.*

*— Не плач, Маня дарагая,*
*Не плач, мілая мая.*

*Адслужуся я, вярнуся,*
*Вазьму замуж за сябе.*

*— Не было таго, не будзе,*
*Каб сухі дуб лісце маў,*
*Не было таго, не будзе,*
*Каб багаты бедну браў.*

*Ой, у лесе пры даліне*
*Кучаравы дуб стаяў,*
*Пад тым дубам зеляненькім*
*Хлопец дзеўку цалаваў.*

* Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.




*

Шэф сустракае на калідоры Іванава і гаворыць са здзіўленнем:

— Нядаўна пазваніла ваша жонка і сказала, што вы хворы і астанецеся дома...

— От дурніца, я ж гаварыў, каб пазваніла заўтра!

*

Шатландзец купляе сабаку косць.

— Ці патрабуеце яшчэ чагосьці? — пытаецца прадавец.

— Запакуйце гэтую косць у сённяшнюю газету!

*

— Не ведаю, што ахвяраваць жонцы ў гадавіну шлюбу. Хацелася б зрабіць ёй прыемнасць, а адначасна, каб не было надта дарагое.

— Напішы ёй любоўны ліст-ананімку!

*

— Ці магла бы ты пазычыць дваццаць кніжак? — звоніць па тэлефоне дзяўчо да сяброўкі.

— Прыйдзі і выбяры сабе! Адкуль у цябе такая ахвота да чытання ўзялася?

— Тут не ў чытанні справа. Заўтра прыходзіць да мяне адзін інтэлігент.

*

Выкладчык пытае ў студэнткі:

— Як будзе будучы час ад дзеяслова „кахаю"?

— Выйду замуж, — не разгубілася тая.




**Добра ведае сваю цану той, каго купілі.**